ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

BIELARUS
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№ 358 Год выд. XXXVIII | Красавік 1989

## «ВЕРЦЕ Ў БАЦЬКАЎШЧЫНУ СВАЮ, СЬВЯТУЮ БЕЛАРУСЬ»

*(Урывак з казані Архіепіскапа Мікалая, Першагіерарха БАПЦ, у царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Гайленд-Парку ў дзень сьвяткаваньня 71-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці БНР, 9 красавіка 1989 г.)*

Мець веру — гэта думаць ня толькі пра самога сябе, бо-ж тады будзеш думаць адно пра асабістыя выгады свае, і тады ты спалохаешся навальніцы. Дзеля гэтага-ж Ісус кажа: «Калі хто хоча ісьці за Мною, зрачыся сябе, і вазьмі крыж свой, і ідзі за Мною».

Сёньня мы сьвяткуем наша вялікае сьвята Незалежнасьці, сьвята 25 Сакавіка. Семдзесят адзін год таму, 25 сакавіка 1918 году ў сталіцы нашай Бацькаўшчыны, у Менску, вуснамі нашых айцоў, нашых грамадзкіх лідэраў была агалошана Незалежнасьць Беларусі.

Сёньня, у дзень сьвяткаваньня, варта нам затрымацца ды ўявіць тых нашых народных апосталаў, стаўпоў незалежніцкага руху. Гэтыя людзі, што працавалі ў народным беларускім вызвольным руху, ня жылі ў палацах ці ў роскашы. Ім часта неставала сродкаў на пражыцьцё ці на выдаткі, зьвязаныя з грамадзкай працай. Яны не атрымоўвалі платы за сваю працу. Гэта былі запраўды евангельскага вобразу людзі, што адракліся самых сябе, узяўшы цяжкі крыж свой, і пайшлі за клічам свае роднай Бацькаўшчыны, Сьвятой Беларусі.

Незважаючы на ўсе цяжкія жыцьцёвыя абставіны, — прасьлед, турмы, зьдзекі пануючых — яны поўнасьцяй пасьвяцілі сябе, жыцьцё свае свайму народу. Іхны чын самаахвярнасьці й прывёў да слаўнага 25-га Сакавіка, агалошаньня Незалежнай Беларусі.

Але змаганьне за поўную незалежнасьць Беларусі ня спынілася на прагалошаньні. Даволі прачытаць кніжкі «На Крыжовай Дарозе» і «Айцы БССР і іхны лёс» Аўгена Калубовіча, каб уявіць сабе тую пакуту, той крыж, які яны пранесьлі праз сваё жыцьцё. Але нам ведамы толькі зьнікомы лік імёнаў. А колькі-ж тых, ня ўпісаных у летапіс нашага адраджэньня, нашага нацыянальнага ўваскрасаньня.

Хрыстос памёр на крыжы, каб потым уваскрэснуць. Нашыя народныя пакутнікі памерлі на крыжовай дарозе, каб жыла Бацькаўшчына. У Сьвятым Пісьме сказана, што зерне пасеенае ў зямлю паміpae, але яно родзіць шмат плоду.

Мы бачым, які вялікі цяпер уздым за адраджэньне нашага народу па ўсёй Беларусі. Вядзецца змаганьне за зварот правоў нашай роднай мове, культуры, мастацтву, гісторыі. У Беларусі на зборах і дэманстрацыях лунае наш нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг, віднее дзяржаўны гэрб Пагоня, а беларускія студэнты Варшаўскага Ўнівэрсытэту ўпяршыню адкрыта адзначылі сёлета 71-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі.

Сёньня варта й нам, кожнаму з нас асабіста, падумаць: а чым-жа я прыкладаюся да адраджэньня Беларускага Народу? А колькі мяне кранае кліч: «Вер у будучыню Беларусі, у адраджэньне твайго народу! Ня дай нікому вырваць зь цябе гэтую веру!» Гэта кліч Беларускага Народнага Фронту ў Менску.

Дарагія мае, і я заклікаю ўсіх вас: не шкадуйце працы й сродкаў на адраджэньне свайго народу, шануйце і любеце сваю родную мову беларускую, сваю культуру, вывучайце гісторыю свайго народу, а панад усё верце ў Бацькаўшчыну сваю, у Сьвятую Беларусь.

## *ПРЭЗЫДЭНТ ЗША ДЖОРДЖ БУШ ВІТАЕ З УГОДКАМІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ*

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

March 31, 1989

I am happy to greet everyone joining the Bielarusian Coordinating Committee as it observes the 71st anniversary of Bielarusian Independence.

In commemorating this milestone, we pay tribute to the rich national heritage Bielarusia has shared with the world through the centuries. We are aware that the human desire for liberty cannot be extinguished, even by decades of time. I commend you for your efforts to keep the plight of Bielarusians before Americans who are fortunate enough to live in a free society.

Barbara joins me in wishing you a memorable and enjoyable celebration. May God bless you and all those who struggle for freedom around the globe.

George Bush

Я шчыра вітаю ўсіх, хто разам зь Беларускім Каардынацыйным Камітэтам гор. Чыкага ўшаноўвае 71-я ўгодкі Беларускай Незалежнасьці.

Адзначаючы гэтую падзею, мы ўшаноўваем багатую нацыянальную спадчыну, якою Беларусь дзялілася са сьветам на працягу стагодзьдзяў. Мы сьвядомыя таго, што нельга згасіць людзкога жаданьня свабоды нават дзесяцігодзьдзямі часу. Я ўхваляю вас у вашых намаганьнях трымаць нядолю Беларусаў перад увагай Амэрыканцаў, якім пашчасьціла жыць у свабодным грамадзтве.

Мая жонка Барбара далучаецца да майго пажаданьня вам запамінальнага й прыемнага сьвяткаваньня. Няхай Бог блаславіць вас і ўсіх тых, хто змагаецца за свабоду па цэлым сьвеце.

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

### МЕНСК, БЕЛАРУСЬ

Паводля ліста работніка Менскага трактарнага заводу В. Стэфаняка, зьмешчанага ў газ. «Правда» (16.IV.89), «у Менску напярэдадні выбараў [выбары адбыліся 26 сакавіка] група маладых людзей спрабавала арганізаваць мітынг. Яны выйшлі на вуліцы з абуральнымі плякатамі: у зарашэчаных клетках-воknах — назовы саюзных рэспублік, накрыж перакрэсьлены дзяржаўны сьцяг [БССР], транспарант: «ДОСЫЦЬ 'САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ', АДРОДЗІМ *НАРОДНУЮ БЕЛАРУСЬ*».

Далей мянчанін Стэфаняк піша: «Газэты паведамілі: пацярпелі два працаўнікі міліцы, за парушэньне грамадзкага парадку і хуліганскія выхадкі затрыманы 21 чалавек. Фармулёўка, скажам так, — далікатная. Ды ня трэба гарачыцца й калечыць лёс гэтых хлапцоў. Але тым самым часам нельга не ўсьведамляць, што была спроба менавіта антысавецкай, антысацыялістычнай маніфэстацыі».

**«Дык чаму-ж амаль зьнiклі наша мова, нашы школы, наша культура? Па-першае, не памёр вялікадзяржаўны шавінізм. Гены вялікадзяржаўнай зьнявагі ўсяго беларускага пераходзяць ва ўсё новыя і новыя пакаленьні чыноўнікаў».** — Пімен Панчанка, народны паэт Беларусі. «ЛіМ», 7.IV.89.

### БЕЛАСТОК, ПОЛЬСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА

Вялізарны напіс — «25 САКАВІКА — НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ» — на белым палотнішчы над уваходам у адзін з дамоў беластоцкай Мэдычнай Акадэміі, заўважальны здалёк, выклікаў мяшаныя пачуцьці ў прахожых. Адныя чыталі яго няпрыязна, у іншых ён разбуджаў іскру закансьпіраванай надзеі, што міжволі накіроўвала іхныя крокі пад той гістарычны сымбаль суверэнасьці.

Унутры старанна ўпрыгожаная заля вітала клічам «Жыве Беларусь!» і белчырвона-белым сьцягам, што зьвісаў на ўсю вышыню памешканьня. Паміж імі літары гаспадара ўрачыстасьці — *БАС* (Беларускае Аб'яднаньне Студэнтаў). На сьценах тэксты: «Бяз роднай мовы няма перабудовы», «Беларусь перадусім»; у іншым месцы — алегарычны малюнак з напісам: «71 год БНР».

Заля паступова запаўняецца амаль выключна моладзьдзю. Кожнага гасьця ўрачыста вітаюць арганізатары сьвяткаваньня. Усё гэта стварае нечакана ўрачыстую атмасфэру.

Юрка Ляшчынскі адкрывае ўрачыстасьць. Прысутныя ўстаюць, дружна сьпяваюць нацыянальны гімн — дружна як адзін, але паўголасам, у нейкім асаблівым узьнёслым настроі, што яднае думкі й пачуцьці. Настае хвіліна цішыні, у якой быццам усё замерла — усё апрача памяці аб загінулых ды замучаных за Бацькаўшчыну.

Пасьля прывітальнага слова і кароткага паясьненьня ідэі ды значэньня Акту 25 Сакавіка Юрка Ляшчынскі дае голас гасьцям. Прадстаўнікі польскай арганізацыі студэнтаў перадалі прывітаньні ад польскай моладзі, што яднаецца са сваімі беларускімі сябра-

*(Працяг на 6-й б.)*

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $20 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 20 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# «ПОЧЕМУ НЕ СОСТОЯЛАСЬ БССР?»

**(Прамова сп. Гая Пікарды на сьвяткаваньні ўгодкаў незалежнасьці БНР у Лёндане)**

Некалькі гадоў таму, гэта ня важна — колькі, з выдавецтва «Голас Радзімы» выйшла яшчэ адна невялікая кніжыца, каб вытлумачыць зьбітым спанталыку беларускім эмігрантам «Почему не состоялась БНР?» Я заўсёды любіў чытаць гэтыя гістарыяграфічныя фантазіі з-пад пяра Коўкеля, Сташкевіча ды супольнікаў, дзівячыся прымітыўнай сэлекцыйнасьці й маніпуляваньню архіўным матар'ялам. Мы маем тут у нашай бібліятэцы нічога сабе калекцыю іх, радыя захоўваць іх для нашчадкаў, як прыклад першараднай палемічнай гістарыяграфіі з другое палавіны XX-га стагодзьдзя.

Нядаўна сябра з Савецкага Саюзу прыслаў мне зборнік «Дары данайцев» (Менск, 1987). Гэта — «папуры» памфлетаў тае самае каманды містагогаў, прызначанае для спажытку ўнутры Савецкага Саюзу — усё аб тым, як ніколі ня было БНР, як яна «збанкрутавала» і разьвеялася як сон. «Ага! — сказаў я сабе. — З чым-жа гэта мы маем тут справу?» Фікцыя, замежная інтрыга, змова польскіх «паноў», шайка буржуазных нацыяналістаў, пазбаўленых усякага народнага падтрыманьня, якая выпарылася бясслаўна недзе шэсьцьдзесят гадоў таму, — усё гэта выцягваецца ізноў на сьвятло 10-тысячным тыражом у цьвярдой вокладцы, каб уговорваць народу Беларусі тое, чаго яму лепш ня ведаць. Чаму гэтулькі галасу вакол нічога — асабліва ў часе, калі такі войстры дэфіцыт паперы, што яе нестае на прызваіты ангельска-беларускі слоўнік?

А тады бачу я, ужо зусім нядаўна, ілюстраваныя артыкулы ў савецкім друку пра дэманстрацыі ў Менску й Вільні, фатаграфіі вялікага ліку моладзі, якая носіць эмблемы і ўздымае сьцягі. Ды гэта эмблемы й сьцягі не Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Я бачу, што гэта эмблемы тае фікцыі, тае здані, збанкрутаванае буржуазна-нацыяналістычнае інтрыгі — БНР, «которая не состоялась». Больш. Нядаўна выдадзены ратэтарнага тыпу бюлетэнь зь Менску падае тэкст беларускага нацыянальнага гімну. Але гэта ня гімн БССР: «Мы, беларусы, з братняю Русьсю» — тут словы паэта Макара Краўцова: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», стары гімн БНР, што ўслаўляе «штандар наш бел-чырвона-белы».

І гэта ня ўсё. Мянчанін, зь якім я лістуюся, пацьвярджаючы нядаўна атрыманьне кніжкі «Юнацкі сьпеўнік» (выд. СБМ, Менск, 1943), піша: «Вы, пэўна-ж, памятаеце першы вечар Маладых Літаратараў 10 сьнежня 1987 году. Там таксама яны сьпявалі 'Пагоню', якая зьмешчаная ў 'Юнацкім сьпеўніку'. Гэта гімн усіх Беларускіх суполак, яны яго заўсёды сьпяваюць на сваіх зборках». Вы ўсе ведаеце яго: мы сьпяваем яго тут таксама. Гэта, пэўна-ж, яшчэ адзін плод нашага ўяўленьня, яшчэ адна «фікцыя» — гэта мусіць быць так, бо-ж імя аўтара музыкі ўпарта выкідалі з усіх матар'ялаў у Савецкай Беларусі — тымчасам як гэта твор найбольшага, бадай, беларускага кампазытара і, апрача ўсяго, буржуазнага нацыяналіста, Міколы Куліковіча-Шчаглова.

Хіба-ж ня трэба вам нагадваць пра нядаўныя «свабодныя» выбары ў Савецкай Беларусі, дзе ў Менску, як і ў Кіеве, Маскве ды Ленінградзе, афіцыйныя кандыдаты кампартыі дасталі лупцоўку. Каля пятнаццацёх з 60 кандыдатаў былі адкінутыя выбаршчыкамі — «Кожны чацьвёрты!»

Што-ж гэта робіцца? Ці гэта ЦРУ пралезла ў шэрагі выбаршчыкаў? Ці гэта «фашысцкія правакатары» дзейнічаюць? Мы ня можам зьвярнуцца па тлумачэньне да кніжак гісторыі, бо яны ўсе перапісваюцца цяпер пасьля таго як летась былі скасаваныя ў школах экзамены зь гісторыі.

Але ці не магчыма так, што пасьля страшных раскопак ахвяраў у Курапатах, жудасных памылак у Чарнобылі, жорсткага разгону сходу на адзначэньне «Дзядоў», змучаныя пустымі магазынамі й мітусьнёй штадзённага жыцьця, наладжанага больш для прыкарытнікаў, як для простага народу, людзі пачынаюць задумвацца: дзе-ж запраўдная Беларусь? Яны імкнуцца пазнаць мінуўшчыну. Хто запраўды быў на чале беларускага народу і дбаў пра ягоныя інтарэсы? Гэтак званыя стваральнікі БССР — Кнорын і Мясьнікоў, якія высьмейвалі Беларусь, ня гутарылі беларускай мовай ды выдавалі свае дэкрэты й прысуды сьмерці па-расейску? Ці іншыя людзі, тыя з-пад «Пагоні» й бел-чырвона-белага сьцягу, чые прозьвішчы нарэшце пачынаюць зьяўляцца ў друку: Варонка, Ластоўскі, Луцкевіч, Гарун, Езавітаў, Тарашкевіч — усе патрыёты, што прамаўлялі да народу ягонай мовай і былі гатовыя памерці за яго?

Мінулыя гады выразна паказалі ўсім, якая дзяржава, якая сыстэма — плод уяўленьня, фікцыя і замежная інтрыга!

Мы маем дзяржаву з груваскім хвальшывым назовам, із зробленымі паводля шаблёну сьцягам і гэрбам, з уяўнай сувэрэннасьцяй, якая выключае самастойную замежную палітыку ці дыпляматычныя сувязі асобна ад Масквы. Ейныя межы фікцыйныя, якія перакройваліся ад 1919 году, каб задавольніць патрэбы й выгоды «ўсесаюзнага ўраду», бязь ніякага ўліку этнічных рэальнасьцяў. Ейны ўрад вызначаецца фікцыйнымі выбарамі, у якіх выбар грамадзяніна зрэдукаваны да адмаўляньня. Ейныя нацыянальныя справы вядуцца пераважна ў замежнай мове ў імя фікцыйнае палітыкі двухмоўя, якая зьнявечыла беларускую мову й згвалціла правапіс. Шмат чаго зь ейнага малярства й музыкі — прадукт «інтэрнацыяналісцкіх» мастакоў зь іншых рэспублікаў. Ейныя рэлігійныя справы з рацыяй можна схарактарызаваць як расейскую інтэрвэнцыю ды польскую інтрыгу. Краю накінулі нават хвальшывую гісторыю, якую даводзіцца час-часом перапісваць, выкарыстоўваючы або й не сакрэтныя архівы, што ахоўваюцца бібліятэкарамі-паліцыянтамі.

Сёньня, калі натоўпы й дэманстрацыі зьбіраюцца пад бел-чырвона-белым сьцягам і эмблемамі БНР, пяючы свае патрыятычныя песьні і дамагаючыся аднаўленьня імёнаў былых лідэраў і пісьменьнікаў; калі нават афіцыйныя ўстановы й партыйцы мусяць пасылаць свае працы й даклады нацыяналістычным групам замежы, каб яны іх апублікавалі, або каб яны былі пашыраныя прыхільнікамі БНР, — людзі маюць права папытацца: которая з гэтых Беларускіх Рэспублікаў хвальшывая, а которая праўдзівая?

Надыходзіць час для напісаньня кнігі пад заг. «Почему не состоялась БССР?» І калі вэтэраны нацыянальнага змаганьня зьбяруцца з чатырох канцоў сьвету, каб адсьвяткаваць аднаўленьне запраўды сувэрэннай Беларускай Народнай Рэспублікі, як гэта й станецца, каб прайсьці парадам па Праспэкце 25 Сакавіка ў Менску, тады працу над гэткай кнігай можна будзе, бадай, даручыць Коўкелю й ягоным супольнікам. Яны, бясспрэчна, будуць радыя напісаць яе за адпаведны ганарар (у цьвярдой валюце) і за дармовае падарожжа ў галівудзкі Дысыніленд.

**Гай Пікарда**

# ЧАРНОБЫЛЬ

Пятая частка тэрыторыі БССР з жыхарствам больш як 300 тысячаў, паводля заявы ТАСС, пакрытая радыяцыяй з Чарнобыльскае атамнае электрастанцыі, на якой 26 красавіка 1986 году здарылася аварыя.

У лютым сёлета ўлады пастанавілі, што ў паўдзённа-ўсходнім кутку Беларусі павінны быць выселеныя яшчэ жыхары дадатковых 20 вёсак, на тэрыторыі якіх сьцьверджаны небясьпечны для здароўя людзей узровень радыяцыі. Газэты цэлага сьвету разьнесьлі гэтую вестку, як знак, што вынікі Чарнобыля хутка не прамінуць.

У беларускім савецкім друку 8 і 9 лютага сёлета былі апублікаваныя карты БССР, з абазначэньнем забруджаных ядзернымі ападкамі мясьцінаў. Забруджаная тэрыторыя падзеленая на чатыры зоны:

1. ЗОНА АДЧУЖЭНЬНЯ, адкуль усе жыхары выселеныя. Да аварыі там жыло 4,4 тыс. чалавек у 20 населеных пунктах. Зона агароджаная, арганізаваная ахова.

2. ЗОНА АДСЯЛЕНЬНЯ. Акрэсьлілася ў чэрвені-жніўні 1986 году. Уключае 75 населеных пунктаў, адкуль было эвакувана 18,7 тыс. асобаў.

3. ЗОНА ПЭРЫЯДЫЧНАГА КАНТРОЛЮ. Уключае 637 населеных пунктаў, дзе жыве 206,6 тыс. чалавек. На ейнай тэрыторыі арганізаванае назіраньне за станам здароўя людзей і кантроль якасьці прадуктаў харчаваньня.

4. ЗОНА СТАЛАГА КАНТРОЛЮ. Уключае 415 населеных пунктаў Гомельскай і Магілёўскай вобласьцяў, дзе жыве 103 тыс. чалавек. Паводля газ. «Зьвязда», на гэтай тэрыторыі «ажыцьцяўляецца комплекс радыяцыйна-ахоўных мерапрыемстваў, накіраваных на стварэньне бясьпечных умоў жыцьця насельніцтва: арганізавана пастаяннае назіраньне за станам здароўя людзей, забясьпечваецца завоз чыстых прадуктаў харачаваньня…» і г.д.

Аднак у савецкім друку шмат нараканьняў, што кантроль больш на паперы, як на практыцы: жыхарства ня мае ня тое што асабістых дазымэтраў (для вымяраньня ўзроўню радыяцыі), але нават належнае інфармацыі пра небясьпеку. Адзін жыхар Беларусі В. Зобін паслаў у газ. «Правда» ліст, у якім піша («Пр.», 24.III.89):

«Шмат якія прадукты харчаваньня выраблююцца ў раёнах з павышанай радыяцыяй, але ў магазынах, на рынку інфармацыі аб ступені заражанасьці й дапушчальных нормах няма. Ёсьць небясьпека, што шмат якія прадукты нагул не правяраюцца. Усё гэта ахутана цемрай таямніцы».

Як гэты «комплекс радыяцыйна-ахоўных мерапрыемстваў» выглядае на практыцы, відаць зь некаторых усесаюзных публікацыяў (менскія крыніцы часьцей за ўсё маўчаць на гэтую тэму). Вось што чытаем у дадатку да газ. «Известия» «Неделя» (№ 13, 1989):

Гавораць жанчыны, пераселеныя зь небясьпечнае зоны ў Буда-Кашалёўскі раён:

«Толькі аналізы бяруць, колькі-ж можна кроў зь дзяцей пампаваць! — зашумелі жанчыны. — А лячэньня ніякага няма. Вітаміны, кажуць, дзецям патрэбныя. А дзе яны — вітаміны? Каапэратыўныя апэльсіны па чатыры рублі кілё. Дык і тых няма. Ня кажучы ўжо пра лімоны й яблыкі. Ня прывозяць да нас».

«Па асобных, найбольш рэдкіх лякарствах, — сказаў карэспандэнту БЕЛТА намесьнік міністра аховы здароўя БССР Віктар Бур'як, — дэфіцыт дасягае 50-70 працэнтаў, па абсталяваньню 30-40 працэнтаў». (ЧЗ, 18.IV.88)

У «Известиях» за 2 красавіка, пад заг. «Ліст актуальны, публікаваць ня трэба», расказваецца, як бюракраты ў Менску (у Вандэі) заціскаюць калектыўныя жальбы людзей ды як мясцовыя бюракрацкі хвальшуюць часамі вынікі мэдычнага абсьледаваньня. «Асабліва злачынным падобнае 'мэдабсьледаваньне' выглядае ў дачыненьні да дзяцей, — піша карэспандэнт газэты А. Ільлеш. — Абавязкавае заключэньне 'здаровы' без агляду, без праслухваньня, без абсьледаваньня! Прывяду зыркі прыклад: у мэдыцынскіх картачках дзяцей Кір'янава запісана, што іхныя хваробы — вынік алькагалізму і наркаманіі бацькі. І ня ведалі мэдыкі, што А. К. Кір'янаў ня толькі ня п'е, але й ня курыць!»

Часапіс «Коммунист Белоруссии» ў сёлетнім лютаўскім нумары свой артыкул пра жыцьцё ў «заражаным» Хойніцкім раёнё загаловіў «Чалавек на 'хворай' зямлі». Ня толькі на «хворай» зямлі, але і ў «хворай» забюракрачанай савецкай сыстэме…

## «НОВАЯ КААЛІЦЫЯ» ПРА БЕЛАРУСАЎ

У польскім краёвым незалежным часапісе Nowa Koalicja № 6, 1988 (выдае яго група прыхільнікаў Каталіцкае Царквы, незалежніцкае партыі й «Салідарнасьці») зьмешчаныя матар'ялы (бб. 38-68), што насьвятляюць сучаснае беларускае нацыянальнае адраджэньне. Сярод іх і артыкул др. Янкі Запрудніка пад заг. «Галоснасьць і Беларусы» (перадрук зь «Беларуса» № 340). У нумары 4-м «Новай Кааліцыі» быў таксама зьмешчаны матар'ял з газэты «Беларус».

**Газэта «Беларус» жадае ўдачы** Радзе Культуры Студэнтаў Беларускае Нацыянальнасьці ў Ольштыне (ПНР) у правядзеньні канфэрэнцыі 12-14 травеня сёлета ў мясцовасьці Мэльна на тэму «Стан нацыянальнае сьведамасьці Беларусаў — пэрспэктывы разьвіцьця».

# ВІНЦЭНТ ЖУК-ГРЫШКЕВІЧ

**(Нататкі да жыцьцяпісу)**
**(10.II.1903—14.II.1989)**



Вінцэнт Жук-Грышкевіч нарадзіўся 10 лютага 1903 г. ў рыма-каталіцкай, малазямельнай сям'і ў мястэчку Будслаў Вялейскага павету. Бацькі ягоныя Марыя й Антон мелі пяцёра дзяцей: Ядвіню, Яську, Міхася, Браніслава й наймалодшага Вінцэнта.

Яшчэ падлеткам здольны Вінцэнт быў вясковым хатнім настаўнікам, «дырэктарам», як казалі, а таксама музыкантам, што іграў на вечарынках і на вясельлях; быў ён і пісарчуком «Усерасійскага земскага саюзу», напаўвайсковай арганізацыі дапамогі жаўнерам на фроньце. У 1917 годзе гэтая арганізацыя была прырэкамэндаваная да Камітэту Паўночна-Заходняга Фронту, што знаходзіўся тады ў Менску. Такім чынам у Менску апынуўся й Вінцэнт, які зь сябрам-мянчуком, што прадаваў газэты, бегаў каля Беларускага Тэатру, дзе адбываўся Ўсебеларускі Кангрэс, назіраў і прыслухоўваўся да падзеяў, быў сьведкам збройнага разгону Кангрэсу бальшавікамі.

Даведаўшыся, што ў родным Будславе заснаваная беларуская гімназія, Вінцэнт едзе дамоў і паступае ў 4-ю клясу гэтай школы, заснаванай стараньнямі будслаўскай інтэлігенцыі й сялянства. Беларуская гімназія ў Будславе працавала нармальна й за часамі нямецкай акупацыі ў 1918 годзе.

У 1919 годзе ў Вільні стараньнем Івана Луцкевіча ды іншых была адкрытая Віленская Беларуская Гімназія ў Базыльлянскіх мурох. У гэтым-жа годзе польскія акупанты зачынілі беларускую гімназію ў Будславе.

У 1920 годзе 17-цігадовы Вінцэнт дабіраецца да Вільні й паступае ў Віленскую Беларускую Гімназію. Працуе адчасна як начны старож у каапэратыве. Разам з Натальляй Арсеньневай выдаюць вучнёўскі часапіс, навукай займаюцца інтэнсыўна, каб за год зрабіць дзьве клясы, бо ўтрымацца ў Вільні матар'яльна вельмі цяжка.

У 1922 годзе Вінцэнт канчае Віленскую Беларускую Гімназію ды разам з пару іншымі сябрамі празь Літву, дзе тады быў урад БНР, з БНР-аўскім пашпартам едзе ў Прагу Чэскую вучыцца. Паступае на факультэт славянскай філялёгіі й гісторыі Праскага Ўнівэрсытэту. Закончыўшы яго ў 1926 г., прыяжджае ў Вільню й настрыфікуе чэскі дыплём пры Віленскім Ўнівэрсытэце імя Сьцяпана Батуры.

Ад 1927 году выкладае гісторыю, беларускую мову й літаратуру ў Віленскай Беларускай Гімназіі. Выкладае таксама беларускую мову ў Духоўнай Праваслаўнай Сэмінарыі ды Школе Палітычных Навукаў у Вільні.

Прыход бальшавікоў у 1939 годзе застае яго ў Вільні. Прадстаўнікі камуністычнай улады склікалі былых настаўнікаў Віленскай Беларускай Гімназіі. На гэтым паседжаньні Вінцэнта Жук-Грышкевіча, як настаўніка беларускай мовы, папрасілі памагаць выдаваць у Вільні газэту ў беларускай мове. Кароткі час ён і працаваў як карэктар, стыліст. І вось аднаго дня, вярнуўшыся з працы, застаў ён у кватэры чэкістаў, якія сказалі яму: «Собирайся с вещами». Арыштавалі. Доўга трымалі ў турмах, разам з шматлікімі Беларусамі, у Вялейцы, Полацку ды ў іншых месцах, аж засудзілі на 8 год ссылкі. Абвінавачаньне: «Сацыяльна небясьпечны элемэнт». Ссылку адбываў у Пячора-Лягеры й Варкуце. Будаваў найбольш Чыгунку ад Уралу да Белага Мора.

У 1942 г., пасьля дагавору заходніх дзяржаў са Сталінам, грамадзянаў былое Польшчы звольнілі зь лягероў з мэтай, каб яны ішлі ў армію ген. Андэрса й ваявалі супраць Гітлера.

Ад 1942 па 1946 год Вінцэнт Жук-Грышкевіч знаходзіцца ў Другім Корпусе арміі Андэрса на Сярэднім Усходзе і ў Італіі. Быў пад Монтэ-Касына. У Італіі, а пасьля й Англіі выкладае ў польскіх сярэдніх школах гісторыю.

У Лёндане ў 1946 годзе ён разам зь іншымі нядаўнімі вайскавікамі заснаваў Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі і стаўся ягоным першым старшынём ды быў ім аж да выезду ў 1950 г. ў Канаду. У Лёндане выдаваў часапіс «На Шляху».

Прыехаўшы ў Таронта на пачатку 1950 году, адразу ўключаецца ў беларускае жыцьцё. 27-28 травеня таго-ж году бярэ ўдзел у 2-м агульным зьезьдзе Згуртаваньня Беларусаў Канады (ЗБК) і дае на ім даклад на тэму «Беларускі вызвольны рух».

У Канадзе, займаючыся грамадзкай дзейнасьцяй, Вінцэнт Жук-Грышкевіч вучыцца далей — паступае на Атаўскі Ўнівэрсытэт і 11 кастрычніка 1952 г. атрымоўвае ступень доктара філязофіі. Ён быў першым Беларусам, што здабыў дактарат на Атаўскім Унівэрсытэце.

У верасьні 1953 г. др. В. Жук-Грышкевіч ажаніўся з дэнтысткай Раісай Жукоўскай.

Ягоным стараньнем пры Таронтаўскім Унівэрсытэце ў навучальным 1953-54 годзе быў адкрыты лектарат беларусаведы. Заняткі пачаліся 16 кастрычніка 1953 г., лектарам быў др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч.Ён ведаў, што ў ЗША жыве шмат ягоных сяброў зь Вільні, з Прагі, ды ягоны дваюрадны брат Часлаў Ханяўка. Усіх іх ён ня бачыў ад 1939 году. Меў вялікую прагу зь імі сустрэцца. Яшчэ ў 1951 годзе стаў ён кантактавацца з Арганізацыяй Беларускай Моладзі (АБМ) у ЗША, старшынём якое тады быў сп. М. Тулейка. Дагаварыліся, што ЗБК і АБМ зарганізуюць Сустрэчу Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. І гэтак, 1-я Сустрэча БПА адбылася 6 ліпеня 1952 г. на канадзкім баку вадаспаду Ніягара. Прысьвечаная яна была 10-м угодкам трагічнае сьмерці Янкі Купалы. Ключавы даклад аб Янку Купалу меў Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

Стараньнем В. Жук-Грышкевіча была зарганізаваная 3 травеня 1953 году Беларуская Каса Самапомачы. Ён быў ейным першым кіраўніком.

Нямала ён прылажыў стараньняў і заснаваць прыход БАПЦ у Тароньце.

Ад 1954 да 1956 году Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў кіраўніком Беларускае сэкцыі радыё «Вызваленьне» ў Мюнхэне ў Заходняй Нямеччыне.

Увесну 1956 году др. В. Жук-Грышкевіч вяртаецца з жонкай у Таронта, дзе разам з Алесем Грыцуком і Мечыславам Рачыцкім, таксама ўжо нябожчыкамі, арганізуе 2-ю Сустрэчу БПА ў Тароньце ды выступае на ёй галоўным дакладчыкам на тэму «Мы ня вернемся пад савецкую акупацыю».

У 1958 годзе, на саракавыя ўгодкі Акту 25 Сакавіка, прыяжджае ў Таронта Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык. Апрача ягонае прамовы на сьвяткавальнай урачыстасьці, даклад, як звычайна тады, меў і Вінцэнт Жук-Грышкевіч.

У 1960 годзе даходзіць да паразуменьня паміж ЗБК і Беларускім Нацыянальным Аб'еднаньнем у Канадзе, каб супольна сьвяткаваць нацыянальныя сьвяты, а найперш 25 Сакавіка. Супольнае сьвяткаваньне ладзіў, тады яшчэ не аформлены, а перад кожным сьвяткаваньнем нанава створаны, Кардынацыйны Камітэт.

Улетку 1963 г. Вінцэнт Жук-Грышкевіч дастаў першы раз атак сэрца, інфаркт, і доўга хварэў. Да грамадзкай працы вярнуўся ў 1963 годзе. На ўрачыстасьці 100-х угодкаў паўстаньня Кастуся Каліноўскага, зладжанай супольна ЗБК і БНА, В. Жук-Грышкевіч чытаў ключавы даклад у беларускай і ангельскай мовах. Быў ён таксама дакладчыкам і на адзначэньні ЗБК у 1965 годзе 125-х угодкаў нараджэньня Францішка Багушэвіча.

У 1966 г. В. Жук-Грышкевіч апрацаваў статут Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады. Статут быў прыняты прадстаўнікамі ЗБК і БНА 16 студзеня 1966 г. ды дзейны і па сёньня. У мінулым месяцы сёлета ККБК арганізаваў канфэрэнцыю Беларусаў Канады.

Др. В. Жук-Грышкевіч рэпрэзэнтуе Беларусаў Канады і на канадзкіх форумах. У жніўні 1966 г. бярэ ўдзел у ладжанай Дэпартамэнтам Грамадзянства й Іміграцыі канфэрэнцыі ў Порт-Эльджыне на тэму «Правы й Абавязкі». У чэрвені 1967 г. браў удзел у другой Усеканадзкай канфэрэнцыі аб Славянах у Канадзе і даў на ёй даклад на тэму «Беларусы ў канадзкай статыстыцы» (надрукаваны ў 2-м томе Slavs in Canada). На гэнай канфэрэнцыі выступаў ён ад ЗБК, а трэба было ад нейкае навуковае арганізацыі, якое тады ў Канадзе ў Беларусаў ня было. Таму, вярнуўшыся з канфэрэнцыі, заснаваў Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ў Канадзе.

1967 год. Год 100-годзьдзя Канады, а таксама 450-х угодкаў беларускага друку. Два гэтыя юбілеі ЗБК спалучае і сьвяткуе іх адной імпрэзай. Вінцэнт Жук-Грышкевіч арганізуе выстаўку беларускіх старадрукаў і дае два даклады ў беларускай і ангельскай мовах аб др. Францішку Скарыну й пачатках беларускага друку. У тым самым часе Дзяржаўны Сакратарыят Канады выдае кнігу «Canadian Family Tree». Артыкул у яе пра Беларусаў апрацаваў др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч. Ягоным супрацоўнікам пры перакладзе ў ангельскую мову была сп-ня Ліна Кулеш.

У тым самым годзе адбывалася й міжнародная выстаўка ў Манрэалі, ЭКСПО-67. Увосені ў савецкім павільёне быў «Беларускі тыдзень». Янка Запруднік і Вінцэнт Жук-Грышкевіч прыгатавалі «Сьпіс Фактаў» пра СССР і БССР у форме лістоўкі і пашырылі яе між удзельнікаў ЭКСПО, а таксама ў канадзкім друку.

У чэрвені 1970 году ў Парыжы памёр Старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык, у тым-жа годзе ў Нью-Ёрку адбылася 10-я Сэсія Рады БНР, на якой др. Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў абраны Старшынём Рады БНР ды займаў гэтае становішча на працягу 12 год да 1982 году — свайго 80-цігодзьдзя.

У 1988 годзе, калі адзначалася 1000 год хрысьціянства ў Беларусі, Вінцэнт Жук-Грышкевіч быў душой пабудовы Беларускага Крыжа ў прошчы ў Мідленьдзе. І, як напісаў нядаўна дырэктар прошчы а. Джэймс Фаррэл, «Крыж стаіць, як манумэнт памяці Вінцэнта Жук-Грышкевіча». — «It stands as a monument to his memory».

**Натальля Арсеньнева**

## МАЛАЧАЙ

**(На сьмерць сябры юнацтва)**

*Памёр... Няма... І анідзе у сьвеце*
*не пакрыжуюцца ўжо нашыя шляхі,*
*хай восень зноў спляце нам залатыя сеці,*
*ці зазяленяцца узноў вясновыя лагі...*
*Якое слова дзіўнае, няўцямнае — «ніколі»,*
*якое жудаснае слова — «анідзе»,*
*як замірыцца з тым, што ня сустрэцца болей*
*нам у жыцьці з Табой,*
*ні ў шчасьці, ні ў бядзе?*
*Любіў і Ты, як я, блукаць па пералесках,*
*спачыць у гушчары, скамечыць мох мяккі,*
*яшчэ й яшчэ чытаць, ад крэскі і да крэскі,*
*баляды, што дубы зьбіралі празь вякі,*
*а там, ужо зьмярканьнем, выйсьці ў поле*
*й жыць, як казалі нам, малым:*
*«як набяжыць»,*
*не крыўдаваць, калі нас хтосьці мо' і ўколе,*
*ні — абы што — хапацца за нажы.*
*Мой сябра дарагі!*
*Нялёгкімі гадамі*
*нам давялося жыць, відаць, наш Кон такі...*
*Ды мы брылі...*
*Ступой ішоў і Кон із намі,*
*аж запыніў Цябе кіўком свае рукі...*
*Стаю адна...*
*мгліць панад гаем сьнег счарнелы,*
*журчыць у раўчуку ручай...*
*Ну, што-ж, бывай!*
*Ужо мо' й там, дзе Ты, тчэ парасткі нясьмела*
*прадвесьнік весьніх дзён —*
*зялёны малачай!*

Красавік, 1989 г.

# КАНФЭРЭНЦЫЯ ПРАДСТАЎНІКОЎ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

18-19 сакавіка, 1989 г. ў Тароньце адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў беларускіх асяродкаў Канады. Арганізаваў яе Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады (ККБК), які на гэту мэту атрымаў ад Міністэрства Шматкультуралізму 11000 даляраў субсыдыі.


*На здымку сп-ня Эдна Андэрсон, член Парлямэнту Канады, у кватэры Жук-Грышкевічаў уручае дзяржаўную датацыю др. Раісе Жук-Грышкевіч, сакратару-скарбніку Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады.*

У канфэрэнцыі ўзялі ўдзел Беларусы з правінцыяў: Брытанская Калюмбія, Саскачэван, Антарыё й Квэбэк. Мэтай канфэрэнцыі было ўзмоцніць арганізацыйнае жыцьцё беларускай этнакультурнай групы Канады актывізацыяй прадстаўнікоў малодшага пакаленьня.


*Удзельнікі канфэрэнцыі ў часе перапынку. Фота Марыі Сурвіла.*

Адкрыў канфэрэнцыю др. Барыс Рагуля, старшыня ККБК. Ён падзякаваў канадзкаму ўраду за субсыдыю, ды пажадаў канфэрэнцыі памыснай працы. Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць нядаўна памерлага др. Вінцэнта Жук-Грышкевіча, закладчыка ККБК і былога Старшыні Рады БНР. Вяла канфэрэнцыю сакратар ККБК др. Раіса Жук-Грышкевіч.

На канфэрэнцыі былі прачытаныя спэцыялістамі даклады й праведзеныя дыскусіі па пяцёх тэмах: 1. «Арганізацыйнае разьвіцьцё» (дакл. сп. Расэл Бартон зь Міністэрства Шматкультуралізму, вяла сэсію сп-ня Івонка Сурвіла, сакратар — сп-ня Марыя Сурвіла-Вахман); 2. «Удзел моладзі» (дакл. сп-ня Джуды Пол, кір. сэсіі — сп-ня М. Сурвіла-Вахман, сакр. — сп-ня Лын Кулеш); 3. «Ажыўленьне заціхлых арганізацыяў» (дакл. сп-ня Эльвіра Санчэз дэ Маліцкі, кір. — сп. Роланд Цялеш, сакр. — сп-чна Галена Хрэноўская); 4. «Узгадаваньне лідэраў» (дакл. др. Вітаўт Кіпель, кір. — сп. Уладзімер Рагуля, сакр. — сп-ня Рагнеда Роўз); 5. «Захаваньне й разьвіцьцё беларускай культурнай спадчыны» — (дакл. сп. Ганы Гасан, кір. — сп-ня М. Сурвіла-Вахман, сакр. — сп. Юры Рапэцкі).

Тэмы сэсіяў былі міжсобку павязаныя. У дакладах, адказах на пытаньні і дыскусіях было выказана шмат карысных думак і канкрэтных парадаў на кожную тэму.

Цешыць, што значны працэнт удзельнікаў канфэрэнцыі быў малодшага пакаленьня, і яны бралі жывы ўдзел як у дыскусіях, гэтак і ў выконваньні функцыяў канфэрэнцыі. І відавочным было, што яны бралі на сябе забавязаньне выконваць пэўныя заданьні і ў далейшым грамадзкім жыцьці.

Першы дзень канфэрэнцыі закончыўся банкетам, які пачаўся супольна адсьпяванай малітвай «Войча наш», і на якім прамаўляў упераплёт паангельску й пабеларуску др. Ян Запруднік. Ягоная інсьпіруючая патрыятычная прамова была завяршэньнем энтузіястычнага настрою, вытваранага прамовамі й дыскусіямі ў ходзе канфэрэнцыі. Сугучныя гэтаму настрою былі й беларускія песьні, выкананыя пад гітару салістам Юркам Мазуруком. Надзвычай удалая застольная бяседа закончылася лірыкай супольна адсьпяванай песьні «Люблю наш край».

У прграмe наступнага дня канфэрэнцыі была Божая служба ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага, пленарная сэсія пад кіраўніцтвам сп-ні Івонкі Сурвіла ды агульны сход ККБК пад старшынствам др. Раісы Жук-Грышкевіч. Устаноўлены быў плян працы ды выбраны новы Выканаўчы Камітэт ККБК. У склад яго ўвайшлі: старшыня — др. Раіса Жук-Грышкевіч, заступнік старшыні — сп. Уладзімер Рагуля, сакратар — сп-ня Юльляна Грыцук-Мэкарская, скарбнік — сп. Паўлюк Пашкевіч, і рэфэрэнт рэпрэзэнтацыі — сп-ня Івонка Сурвіла. Прадстаўнікі на правінцыі: на Брытанскую Калюмбію — сп-ня Эва Пашкевіч-Мэк Карвіл, на Саскачэван — сп. Якуб Рапэцкі, на Антарыё — сп. Мікола Ганько, на Квэбэк — сп-чна Галена Хрэноўская. У Наглядную Раду ўвайшлі: сп. сп. Роланд Цялеш, Антон Маркевіч і Алесь Палескі.

Адным з найбольш пякучых і сьпешных заданьняў, якія абмяркоўваліся на канфэрэнцыі, была справа дапамогі ахвярам чарнобыльскае аварыі ў Беларусі. Цяпер, калі адчыняюцца шляхі для такой дапамогі, беларускае грамадзтва Канады, ды й наагул замежжа, ня можа абыйсьці гэтага пытаньня моўчкі, пагатоў, што цяпер настала магчымасьць сувязі й супрацоўніцтва, прынамся ў культурнай галіне, з суродзічамі на Бацькаўшчыне.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## НА СЛАВІСТЫЧНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

Сп-ня Зора Кіпель і др. Вітаўт Кіпель ўзялі ўдзел у гадавой канфэрэнцыі амэрыканскіх славістаў, што адбылася ў Дыкенсонскім ўніверсытэце ў гор. Карлайл у Пэнсыльваніі 1 красавіка сёлета. Др. Кіпель удзельнічаў у сэсіі «Нацыянальныя праблемы СССР», а сп-ня Кіпель старшынявала на сэсіі «Тэксталёгія славянскіх рукапісаў».

*Замест рэцэнзіі*

## БЕЛАРУСКІ КАТЭХІЗМ

Нядаўна выйшаў з друку ў Рыме «Кароткі катэхізм хрысьціянскай навукі», апрацаваны беларускімі каталіцкімі сьвятарамі. Тыраж: 30 тысячаў экзэмпляраў. У кнізе 61 старонка.

Рэлігійныя кнігі ў беларускай мове зьяўляюцца рэдка. Дзеля гэтага трэба горача вітаць гэтую публікацыю з надзеяй, што кніжка станецца пачаткам сэрыі іншых падобных выданьняў рэлігійнага характару.

Маю аднак некаторыя заўвагі. Кніжка прыгожа прэзэнтуецца, але фармат (15 цм. на 21) завялікі. Нельга яе лёгка выслаць у лісьце ці насіць у кішэні. Хоць гэты катэхізм быў выданы Ватыканам, нідзе не зазначана, хто аўтар, няма «ўступнога слова», і хіба найважнейшая справа — не зазначана, што кніжка выдрукаваная з дазволу царкоўных уладаў.

Мова катэхізму добрая, аднак, на маю думку, лепш было-б друкаваць гэты рэлігійны падручнік ужываючы правапіс Б. Тарашкевіча. Ёсьць таксама некаторыя звароты, што дзіўна гучаць. Прыкладам, чаму ўжываецца камбінацыя лацінскай і грэцкай моваў для Господняга Імя: Езус Хрыстос? Думаю, што лепш было-б пісаць або Езус Хрыстус, або, яшчэ лепш, карыстацца грэцкай формай, якую мы ўсюды ўжываем: Ісус Хрыстос.

Незважаючы на гэтыя маленькія агрэхі, кніжка будзе вельмі карыснаю ў пашырэньні рэлігійнай веры сярод нашых суайчыньнікаў на Бацькаўшчыне.

**а. др. Робэрт Язэп Тамушанскі**

## ЛІК ЗАГУБЛЕНЫХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ

«Паводля няпоўных даных, было арыштавана (у 1937 г. і пазьней) каля 80 членаў Саюзу пісьменьнікаў БССР, зь якіх 50 загінулі ў лягерах і турмах». — («Чырв. зм.», 11.II.89)

*З жыцьця ў Чыкага*

## ДАКЛАД ДР. ЯНКІ ЗАПРУДНІКА

31 сакавіка сёлета др. Янка Запруднік, рэдактар газэты «Беларус», даў даклад на тэму «Сучаснае адраджэньне ў Беларусі» ў Украінскім Культурным Цэнтры на запросіны праф. Васіля Маркуся з філіі Ўкраінскага Каталіцкага Ўнівэрсытэту ў Чыкага.

Праф. Маркусь прадставіў дакладчыка, паясьніўшы коратка сучасныя падзеі ў Беларусі і Ўкраіне. Др. Запруднік сказаў уводнае слова паўкраінску, адзначыўшы зразумеласьць беларускае мовы для Ўкраінцаў, і, гаворачы далей пабеларуску, абрысаваў дэтальна пачаткі й разьвіцьцё сучаснага нацыянальнага руху ў Беларусі.

Даклад выклікаў жывую дыскусію. Дакладчык адказаў на шэраг пытаньняў што да сучаснага стану на Беларусі.

## ПРАФ. ТОМАС БЭРД НА ЎНІВЭРСЫТЭЦЕ ІМЯ ЛЯЁЛІ

6 красавіка сёлета на запросіны праф. Васіля Маркуся з факультэту палітычных навукаў Ляёлеўскага Ўнівэрсытэту ў Чыкаґа, у рамках сэрыі лекцыяў пра 1000-годзьдзе хрысьціянства ў Кіеўскай Русі й сярод усходніх Славянаў, праф. Бэрд зь Нью-Ёрку даў даклад на тэму «Уплыў хрысьціянства на беларускую нацыянальнасьць і культуру».

Даклад быў вельмі цікавы і дакладчык красамоўна прадставіў гісторыю хрысьціянства ў Беларусі. Праф. Бэрд зазначыў, што цяпер на Беларусі ідзе нацыянальна-адраджэнскі рух. Нават Мітрапаліт Менскі Філарэт зьвярнуўся да Акадэміі Навук БССР з прапанаваю перакладу Бібліі ў беларускую мову. З другога боку, палажэньне Беларусаў-каталікоў у БССР вельмі складанае й цяжкое — няма ні свае іерархіі ні беларускіх каталіцкіх сэмінарыяў, а Беларусь сваёй багатай культурай і гісторыяй заслугоўвае, каб мець адно і другое.

Праф. Бэрд даў яшчэ адзін даклад на тэму «Актуальнасьць Тараса Шаўчэнкі ў сучасным сьвеце» ўва Ўкраінскім Культурным Цэнтры. Рэфэрат, з уводным словам паўкраінску, а далей паангельску, быў вельмі цікавы. дакладчык выявіў глыбокую аналітычную веду твораў вялікага ўкраінскага паэта, зазначаючы, што ў сваіх дакладах ён заўсёды нагадвае пра творчасьць Шаўчэнкі ды беларускіх паэтаў Янкі Купалы й Якуба Коласа.

На вечары выступіў таксама зь цікавым дакладам др. Мікола Жулінскі з АН у Кіеве на тэму «Шаўчэнка і духовая сытуацыя ў сяньняшняй Украіне».

**Др. Вітаўт Рамук**

***Новае на кніжную паліцу***

БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР БГКТ НА 1989 ГОД. Беласток, 1989. 280 б., ілюстраваны.

BYELORUSSIAN STATEHOOD. Reader and Bibliography. Edited by V. and Z. Kipel. New York, 1988. 398 p., illustrated.

STUDIA POLSKO-LITEWSKO-BIAŁORUSKIE. Pod red. J. Tomaszewskiego, E. Smułkowej i Majeckiego. Warszawa, 1988. 396 str. Шмат беларусаведнага матар'ялу, некаторыя артыкулы ў беларускай мове.

Масей Сяднёў. А ЧАСУ БОЛЬШ, ЧЫМ ВЕЧНАСЬЦЬ. Вершы і нарыс пра паэзію М. Сяднёва, Нью-Ёрк, 1989, 141 б.

КАРОТКІ КАТЭХІЗМ ХРЫСЬЦІЯНСКАЙ НАВУКІ. Рым (друкарня Інстытуту імя Пія XI-га), 1988. 61 б.

# МІКОЛА КУЛІКОВІЧ-ШЧАГЛОЎ

**(1896—1969)**



Маючы на ўвазе нягоды, што сустракалі яго ў жыцьці, можна падумаць, што Мікола Куліковіч-Шчаглоў нарадзіўся ня ў тым часе і ня ў тым месцы. Гэты нязвычайны здольны й найбольш беларускі кампазытар у выніку няспрыяльных палітычных абставінаў ня здолеў дасягнуць міжнароднага прызнаньня, на якое як так багата заслугоўвае.

Пра ягонае раньняе жыцьцё мы ведаем мала, найбольш зь біяграфічнае даведкі ад ягонае першае жонкі ды зь некаторых прэсавых матар'ялаў. Зь іх відаць, што Мікола Куліковіч-Шчаглоў нарадзіўся ў Маскве ў 1896 годзе (некаторыя крыніцы падаюць 1897 г.) у сям'і Мікалая Шчаглова, транспартнага ўрадаўца, што паходзіў з Данскіх казакоў і які мала бываў дома. Матчыная-ж сям'я Куліковічаў паходзіла са Смаленшчыны, з усходняе Беларусі, з рэгіёну багатага на фальклёр, адкуль былі родам добра ведамыя кампазытары беларускага паходжаньня Міхал Глінка (1804-1857) і Міхал Анцаў (1865-1945). А Цімафей Куліковіч, сьвятар парафіі ў Брацку, быў укладальнікам у 1652 годзе аднаго з рэдкіх беларускіх рукапісаў ірмалою, якому пашчасьціла ўцалець ад вогнішча кнігазьнішчальніка й русыфікатара Архіепіскапа Есіфа Сямашкі.

Пасьля раньняй сьмерці ягонай маці Міколу аддалі пад апеку матчыннай цёткі, што была ігуменяй праваслаўнага манастыра ў Туле. Тут хлопчык рос, браў удзел у манастырскім хоры ды за свой выдатны альт дастаў стыпэндыю ў прэстыжным Маскоўскім Сынадальным Вучылішчы, якое было тады на ўзвышшы свае міжнароднае рэпутацыі пад кіраўніцтвам заслужанага дырэктара, рэфарматара расейскае царкоўнае музыкі, Аляксандра Кастальскага (1856-1926). Таленавіты хлопчык-альт быў выбраны як саліст, каб суправаджаць хор у эўрапейскім турнэ з выступленьнямі ў Рыме, Парыжы ды іншых заходніх сталіцах. Няма сумлеву, што глыбокі след на Куліковічу-Шчаглову пакінула вышкаленьне пад кіраўніцтвам Кстальскага, чалавека, якім ён захапляўся і чый уплыў выразна прасьвечваецца ў шэрагу ягоных пазьнейшых царкоўных кампазыцыяў: «Рождество Твоё, Христе Боже наш», «Достойно есть» н-ры 1 і 2 (БЦС, № 10) і «С нами Бог» н-ры 1 і 2.

У тым самым часе завязалася ў Куліковіча-Шчаглова другое сяброўства на цэлае жыцьцё зь сябруком-харыстам Сяргеем Жаравам, што стаўся пасьля кіраўніком ведамага на цэлы сьвет хору Данскіх казакоў, удзельнікі якога ў 1969 годзе супольна адзначылі жалобаю сьмерць «вялікага кампазытара».

Закончыўшы навуку ў Маскоўскай Кансэрваторыі пад кіраўніцтвам Іпалітава-Іванова, Куліковіч-Шчаглоў у сярэдзіне 1920-х гадоў паехаў працаваць настаўнікам музыкі на Украіну. Ён хутка апанаваў украінскую мову ды з часам напісаў невялікую вязанку песьняў і балядаў у гэтай мове, зь якіх найлепш ведамы раманс «Пісня про Львів».

Каля 1934 году яго паслалі ў родную маці Смаленшчыну, дзе ён прысьвяціў сябе на цэлае жыцьцё зьбіраньню й вывучаньню беларускага песеннага фальклёру. Першыя смаленскія зборы вырасьлі пасьля ў багатую калекцыю народных песьняў і танцаў, што займалі чатыры рукапісныя тамы. На жаль, у віхуры 1944 году яны былі страчаныя. Украінскі й смаленскі пэрыяды працы Куліковіча слаба ўдакумэнтаваныя. Цяпер, як выглядае, насьпявае час, каб рабіць далейшыя росшукі на месцы. У 1937 годзе ўжыцьцяўляюцца афіцыйны плян развіцьця сымфанічнае музыкі ў савецкай Беларусі, і Куліковіч-Шчаглоў быў назначаны за дырыгента сымфанічнае аркестры Усебеларускага радыякамітэту ў Менску. Ён пачаў пісаць музыку для аркестры і быў прыняты ў Саюз кампазытараў БССР. Сталінскія рэпрэсіі былі ў самым гарце тады і шмат ягонага творчага высілку, як і многіх іншых, было скіравана на тое, каб выжыць. Маючы востры розум і жвавы характар, Куліковіч-Шчаглоў прыстасаваўся, каб неяк перажыць ліхалецьце, паказваючы ляяльнасьць ды працуючы на рэлятыўна бясьпечным полі народнае музыкі й музычнае тэорыі, якую ён выкладаў у Менскай кансэрваторыі.

Зь ліку ягоных раньніх твораў гэнага рэпяртуару трэба назваць аркестрацыю беларускіх народных мэлёдыяў у «Беларускай сюіце», канцэрт для фартэпіяна, сымфоніі №№ 1 і 2, апошняя зь якіх была пабудаваная ў вялікай меры на фальклёрным матар'яле, ды калектыўна напісаную «Кантату аб Сталіне». Ягоную сымфонію № 2 зрэцэнзаваў у часапісе «Советская музыка», разам зь пятай сымфоніяй Д. Шастаковіча, выдатны расейскі крытык А. Астрацоў, які, адзначыўшы добрую інструмэнтацыю, раскрытыкаваў беларускага кампазытара за «схэматычную» структуру твору ды нясьмелае трактаваньне фальклёрнага матар'ялу. Кампазытар, на думку крытыка, зашмат трымаўся народных мэлёдыяў, выставіўшы сябе на небясьпеку падаць звычайны «рэпартаж» і «пастаральную ідылію». Ягоная «Сымфонія», як выглядае, згубілася, за выняткам двух фрагмэнтаў, прыведзеных у рэцэнзіі Астрацова.

У 1940 годзе Куліковіч напісаў опэру «Кацярына», што была замоўленая да Дэкады беларускае савецкае культуры ў Маскве. Прэм'ера адбылася ў тэатры імя Станіслаўскага. У гэтым творы Куліковіч-Шчаглоў, як выглядае, ухіліўся ад ранейшых агрэхаў (калі ўважаць, што крытыка Астрацова была слушнай) і сустрэў больш прыхільныя рэцэнзіі. Як і ў сваёй «Сымфоніі», кампазытар імкнуўся, уводзячы народныя матывы, перадаць настрой і вобразы беларускай гістарычнай мінуўшчыны. Тэндэнцыйнае да пэўнай ступені лібрэта М. Клімковіча пераносіла дзею ў 16-е стагодзьдзе на фоне ўсенароднага, быццам-бы, змаганьня Расейцаў, Беларусаў і Украінцаў (на чале якога стаяў Іван Грозны /?!/) супраць зборышча сьмехувартых і п'яных «польскіх» паноў. На шчасьце, у гэтым сталінскім маскарадзе быў і элемэнт каханьня, і кампазытар выразна аддаў сваё найлепшае гэтаму пабочнаму сюжэту, бо Кацярыніна стройная арыя «Павей вецер, павей буйны» ды ейны дуэт із сваім каханкам Рыгорам, «Прытулілася каліна», увайшлі пасьля як сталыя нумары ў ягоны пазьнейшы канцэртны рэпэртуар. Другі вядучы савецкі крытык А. Ліўшыц, магчыма, лепш абазнаны зь беларускім фальклёрам ды памятаючы, што Куліковіч-Шчаглоў ушанаваў і гэбрэйскую музыку ў сваёй «Сымфоніі», даў опэры хвалебны агляд. «Цікавая музычная мова Шчаглова, — пісаў ён, — яна асьвежая і простая, без рафінаваньня і надуманых выкрунтасаў. Партытура опэры пераконвае нас у тым, што кампазытар дасканальна валодае аркестрай, умее выкарыстоўваць усе ейныя разнастайныя адценьні.

«Выдатная рыса опэры — ейная народнасьць. Для творчасьці Шчаглова глыбакая арганічная музыка беларускага народу, напеўнасьць, цудоўны калярыт беларускай песьні — вось характэрныя адзнакі музычнае канвы опэры. Але кампазытар рэдка 'цытуе' беларускую народную песьню, захоўваючы адначасна водар гэтай песьні. 'Кацярына', бясспрэчна, упрыгожыць рэпэртуар Беларускага тэатру опэры й балету» (СМ, 1939, 9-10, б. 79). Урыўкі опэры былі апублікаваныя ў Маскве ў 1940 годзе.

Пасьля ўзьяднаньня Беларусі ў верасьні 1939 году, у тым самым годзе, Куліковіч-Шчаглоў быў уключаны ў дэлегацыю на чале зь Янкам Купалам, якая наведала Заходнюю Беларусь, каб устанавіць там стан мастацтва. Кампазытар апублікаваў адмоўна гіпэрбалізаваную справаздачу із свайго падарожжа ў артыкуле «Музыкальное искусство Западной Белоруссии» (СМ, 1939, № 11, бб. 69 і дал.), тлумачэньне да якога ён даў, па вайне ўжо, у ўспамінах пра Янку Купалу. Ён працягваў пісаць у ўсесаюзны часапіс «Советская музыка», стаўшыся фактычна ягоным беларускім карэспандэнтам. Там была апублікаваная ягоная карэспандэнцыя пра Дэкаду беларускага мастацтва, што адбылася ў Маскве ў чэрвені 1940 году, а таксама агляд музычных дасягненьняў сваіх сяброў з Саюзу кампазытараў БССР: Туранкова, Залатарова, Пукста, Цікоцкага й Любана ды прадстаўнікоў малодшага пакаленьня: Падкавырава, Папова, Лукаса, Палонскага і Іванова (СМ, 1940, № 12, 68 і дал.).

«Кампазытар у нашай краіне, — пісаў ён шматзначэнна, — ня толькі кваліфікаваны музыка, але таксама носьбіт ідэялягічных вартасьцяў». Аднак у 1941 годзе Куліковіч-Шчаглоў пастанавіў, што ёсьць іншыя ключы, як «вывучаньне марксызму-ленінізму... для правільнага разуменьня нашай місіі», і ў тым часе як танкавыя дывізіі нямецкага вэрмахту праразалі наскрозь Беларусь, ён разам із сваімі рашчараванымі калегамі Туранковам і Равенскім, пастараўся ня трапіць на апошні цягнік зь Менску.

*(Працяг у наступным нумары)*

**Гай Пікарда**

---

*Вітаем расейскамоўнага паэта і празаіка, ураджэнца Беларусі й прыяцеля беларускае літаратуры, перакладчыка шмат якіх беларускіх твораў у расейскую мову, а таксама супрацоўніка газэты «Беларус»*

**АНДРЭЯ КЛЁНАВА**

*зь 70-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 16 сакавіка 1989 г., ды зычым Клёну далейшага плёну і ўсякае памыснасьці ў жыцьці ў свабодным маляўнічным Нью-Ёрку.*

**Рэдакцыя «Беларуса»**

---

## КУРАПАТЫ НА БРЫТАНСКІМ ТЭЛЕБАЧАНЬНІ

Зь Лёндану ў Менск тэлефанаваць беспасярэдня ня так проста, як у Маскву — трэба званіць праз апэратара. А на другім канцы усё той-жа адказ: «Неправильно набран номер». Але ўсё-ткі ўдалося неяк пагутарыць з заступнікам галоўнага рэдактара газэты «Літаратура і Мастацтва» ды, па доўгіх спробах, са сп. Зянонам Пазьняком. Гутарка з Пазьняком набліжалася да канца, калі ў тэлефоне пачуўся грубы голас і размове нашай раптам настаў канец.

У тэлевізійнай студыі «ЛВТ» (London Weekend Television), у адзьдзеле навінаў («Айуітнэс» — «Навочныя сьветкі»), дзе мне давялося правесьці два дні ў ролі памагатага, было шмат рознага прэсавага матар'ялу пра Курапаты, і калі я ўспомінаў заступніку рэдактара ЛіМу пра матар'ялы са швайцарскай газэты, дык ён сказаў, што Швайцарцы ўжо былі ў Менску і фільмавалі.

Наведаньне Менску лёнданскім ТБ было заплянаванае на 20-23 сакавіка, а 2 красавіка ў праграме «Айуітнэс, ЛТВ» была перадача пра Курапаты: пра 1937 год. Былі паказаныя ямы з астанкамі людзей і папрастрэльванымі чарапамі; былі прадстаўленыя двое сьветак. Камэнтатар адзначаў, што Менск страціў мільён жыхароў (напэўна меў на ўвазе менскія ваколіцы) у Курапатах. Галоўнай асобай у рэпартажы быў Зянон Пазьняк. Ён сказаў, што КДБ і надалей не дае доступу да архіваў і наагул кантралюецца ўсё: хто зь кім кантактуецца, падслухваецца тэлефон Пазьняка, пільныя вочы ўсюды. У часе фільмаваньня Курапатаў КДБ-шнікі фільмавалі тых, хто рабіў здымкі. Брытанцы хацелі зрабіць інтэрв'ю з некаторымі мастакамі, якія былі ўжо даўшы згоду на гэта і прыбылі на дамоўленае месца, але ўлады іх тут-жа пазапісвалі і не дазволілі даваць інтэрв'ю — гэта паказана на фільме.

Незважаючы аднак на розныя цяжкасьці й пагрозы З. Пазьняку, ён ахвяраваўся давесьці справу Курапатаў да канца — выявіць праўду, як ён пра гэта зазначае ў фільме.

**А. Здановіч**

# УГОДКІ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ

(Працяг зь 1-й б.)

мі ў пачуцьцях пашаны гістарычных падзеяў, у тым ліку Акту 25 Сакавіка, ды салідарызуецца ў змаганьні за партнэрскае суіснаваньне польскага народу зь беларускай меншасьцяй у ПНР, асабліва за дружбу маладых пакаленьняў абодвых народаў.

Старшыня БАС Аўген Вапа азнаёміў аўдыторыю з пастулятамі, накіраванымі уладам ПНР адносна звароту беларускіх геаграфічных і адміністрацыйных назоваў на Беласточчыне, спольшчаных у паваенным пэрыядзе, адраджэньня беларускіх культурных, школьных і навуковых установаў, увядзеньня беларускамоўнай багаслужбы й беларускіх радыё- і тэлеперадачаў.

Асноўным пунктам праграмы быў рэфэрат Юркі Туронка, прысьвечаны аналізу палітычных абставінаў, у якіх тварыўся Акт 25 Сакавіка ды арганізавалася Беларуская Народная Рэспубліка, значэньню тых падзеяў для беларускага народу.

Алег Латышонак у сваіх рэфлексіях, зьвязаных з падзеямі беларускага адраджэнскага руху пасьля Першай сусьветнай вайны, схарактарызаваў палітычную атмасфэру таго часу. Спрабаваў выясьніць сымболіку колераў бел-чырвона-белага ды згадаў пра намаганьні супраціўнікаў, што плянуюць паступовае зьнішчэньне, на ягоную думку, і сьцягу, і мовы, і народу.

Пасьля — сяброўскія песьні пад акампанімэнт гітары. На заканчэньне — быццам шчырая вячэрняя малітва наплыла з грудзей удзельнікаў «Беларусь, наша Маці-Краіна»...

Спатканьне адбылося ў настроі нейкай таямнічасьці, што выплывала з захоўваньня маладых удзельнікаў яго. Для бальшыні зь іх гэта было першае не спатыканае дасюль перажываньне, што застанецца ў памяці і сэрцах назаўсёды, а для часткі іх, можа, станецца вэктарам жыцьцёвага шляху.

*Зь лістоўкі, у якой зьмешчаная Дэкляярацыя Беларускага Аб'яднаньня Студэнтаў (БАС) у 71-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ды тры Ўстаўныя граматы Рады БНР і тэкст беларускага нацыянальнага гімну.*

«У няроўны змаганьні за дэмакратычную дзяржаву Беларускі Народ, хоць не адваяваў свабоды, але замацаваў самую ідэю нацыянальнай дзяржаўнасьці, прадэманстраваў наважанасьць змагацца за ажыцьцяўленьне гэтай ідэі. Ідэал вольнай і незалежнай Беларусі застаецца і цяпер пуцяводнай зоркай для здаровых пластоў грамадзтва на Бацькаўшчыне. Гэтым ідэалам кіраваліся верныя сыны і дочкі Беларусі ў міжваенным часе, у часе вайны ды і зараз зьяўляецца ён натхнёнай крыніцай для новых пакаленьняў патрыётаў у Савецкай Беларусі, на Чужыне ды нам, пражываючым у межах сучаснае Польшчы. Беларускія студэнты ў ПНР, ня гледзячы на пагражаючую ім небясьпеку, ад некалькіх гадоў ушаноўваюць ідэю Акту 25 Сакавіка, арганізуючы пастаянна вечарыны і сустрэчы. Сёньня БАС — першая незалежная арганізацыя ў пасьляваеннай Польшчы, хіліць свае галовы перад гэтай ідэяй ды ўшаноўвае памяць змагароў, якія загінулі, каб жыла Беларусь.

Жыве Беларусь!

***«БЕЛАРУС» — АДЗІНАЯ ГАЗЭТА, ШТО ДАКУМЭНТУЕ БЕЛАРУСКІ НЕЗАЛЕЖНІЦКІ РУХ У БЕЛАРУСІ І НА ЭМІГРАЦЫІ. ПАДТРЫМВАЙЦЕ ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС»!***

дзіцца беларускі іншадумец Міхась Кукабака. Надзвычай цікавым было інтэрвʼю Беларускае сэкцыі радыё «Свабода» з Кукабакам, зьмест якога Пётра Рыжы пераказаў ды падкрэсьліў, што Міхась Кукабака сам зазначыў, што ён — ахвяра русыфікацыі.

«Аксамітны вечар» (або «Беларусь мая») ды на просьбу публікі другую песьню таго-ж аўтара «Крыніцы». Абедзьве гэтыя песьні будуць на новай кружэлцы Данчыка, якую ён насьпяваў разам зь Леанідам Барткевічам, былым салістам «Песьняроў», ды якая неўзабаве выйдзе з прадукцыі.



*«Вітаем Вас караваем!» — танцавальны ансамбль «Васілёк» пачынае праграму ўрачыстага сходу. Фота Аляксандра Сільвановіча.*

Др. Ян Запруднік у сваім выступленьні выказаў думку, што працэс вызваленьня пачынаецца знутра: каб быць свабодным, трэба хацець быць свабодным. Вось-жа жаданьне быць свабодным ўзмацняецца цяпер на Беларусі. Народ пачынае пазнаваць сваю мінуўшчыну і гэта ўзмацняе нацыянальна-вызвальны рух. У гэтым адраджэньні вялікая заслуга маладога пакаленьня — таксама як і на нашым сьвяткаваньні, зазначыў дакладчык, — мы таксама бачым, што моладзь пераймае нацыянальную працу. Пахвала Беларускай Моладзі!

Сп. Антон Шукелайць, старшыня БАЗА, вітаючы ўдзельнікаў са сьвятам, падкрэсьліў, што вось ужо чацьверты год як беларуская моладзь ладзіць сакавіковыя сьвяткаваньні. «Пажадаем-жа маладым далейшай плённай працы й далейшых удачаў», сказаў ён.

Мастацкая частка, якую падрыхтавала й вяла др. Ала Орса-Рамана, пачалася дэклямацыяй вершу Ул. Караткевіча «У векавечнай Бацькаўшчыне» і ўрыўку з паэмы С. Сокалава-Воюша «Мяккі знак». Абодвы творы мастацку прачытала сп-ня Ірэна Цупрык, якая заўсёды дадае клясы нашым імпрэзам.

Пацешыла публіку сваім выступленьнем іншая папулярная артыстка Вілачка Саўчук. Яна прачытала колькі сваіх патрыятычных вершаў, у тым ліку адзін прысьвечаны Сакавіковаму Сьвяту.

Улюбенец беларускіх імпрэзаў ды беларускага грамадзтва, наш славуты сьпявак Данчык (Багдан Андрусышын) прапяяў пад свой акампанімэнт на гітары песьню Сокалава-Воюша

Танцавальны ансамбль моладзі «Васілёк» пад кіраўніцтвам Алы Орса-Рамана выканаў зь вялікім запалам танец «Мікіта».

На сьвяткаваньні сёлета было шмат гасьцей: з Канады брала ўдзел у праграме сп-ня Марыя Сурвіла-Бахман, былі госьці з штатаў Канэктыкет, Пэнсыльванія, Мічыган, зь Ілінй, Масачусэтс, цэлая дэлегацыя з Кліўленду ды сп-тва Славік і Каця Вініцкія з далёкай Каліфорніі.

Беларускі нацыянальны гімн гучна й горда прагучэў у поўнай залі на заканчэньне вялікага Беларускага Дня.

Сэнатар-дэмакрат ад штату Нью-Джэрзы Біл Брадлі ў сваёй заяве ў Кангрэс ЗША 5 красавіка 1989 г. (прысланай у ГУ БАЗА) з нагоды ўгодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі, нагадаўшы абвешчаньня Радай БНР свабоды, гэтак схарактаразываў каляніяльную палітыку савецкае ўлады ў Беларусі: «Зь невялікімі выключэньнямі кнігі, часапісы й газэты зь беларускім зьместам былі панішчаныя. Беларуская мова замененая расейскай у ўрадавых установах, школах і выданьнях, гарады і ўстановы паназываныя расейскімі імёнамі. Гістарычныя помнікі й цэрквы паруйнаваныя ў далейшым намаганьні зьнішчыць беларускую культуру».

Сэнатар Брадлі заклікаў да падтрымваньня Беларускага народу, нязломнага ў змаганьні за сваю свабоду. Заява сэнатара зьмешчаная ў стэнаграфічных запісах Кангрэсу Congressional Record.

**Зора Кіпель**

## НЬЮ-ЁРК—НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

Сёлетнія 71-я ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі былі адзначаныя Беларусамі Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы ў нядзелю 9 красавіка. Сьвяткаваньне пачалося архірэйскай багаслужбай у царкве Жыровіцкай Божай Маці БАПЦ у Гайленд-Парку, Н.-Дж., якую адправіў першагіерарх БАПЦ у суслужэньні настаяцеля царквы а. Васіля, мітрафорнага протаіерея а. Карпа з Дораты, Н.-Дж., і іераманаха а. Якуба з Кліўленду. Прыслужвалі ў часе багаслужбы іпадыякан Генадзь Дубяга, Адрыян Лук'янчык і Даніла Андрэюк. Вельмі прыгожа й настраёва пяяў мяшаны хор пад кіраўніцтвам рэгента Якуба Сапежынскага. Асабліва-ж прачульліва й шчыра прагучэлі словы нашае нацыянальнае малітвы «Магутны Божа».

Урачыстая акадэмія й банкет адбыліся ў знаёмай ужо Беларусам залі шыкоўнага гатэлю Гайат Рэджэнсы, што недалёка ад беларускай царквы ў горадзе Нью-Брансьвіку.

Праграма пачалася выхадам на сцэну моладзі ў нацыянальных касьцюмах (зусім новых, зрыхтаваных сп-няй Верай Бартуль) з караваем (мастацтва сп-ні Надзі Кудасавай) пад гукі песьні «Люблю наш край». Сп. Юрка Азарка, старшыня Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ды галава сьвяткавальнага камітэту, прывітаў прысутных, перадаючы голас маладым удзельнікам урачыстасьці, якія зачыталі праклямацыі Дня Незалежнасьці Беларусі ад: мэра гор. Нью-Брансьвіку (Нона Азарка), кангрэсмэна Джэймса Флёрыё (Вера Запруднік), мэра гораду Нью-Ёрку (Юрка Кіпель), губэрнатара штату Пэнсыльванія (Коля Рамана), губэрнатара штату Канэктыкет (Павал Рамана).

Вядучы далей праграму, Юрка Азарка зазначыў, што, як паказваюць падзеі на Беларусі, рух за нацыянальнае вызваленьне не замёр, а адраджаецца й расьце. Довадам гэтага — леташняя дэманстрацыя ў Менску 30 кастрычніка ды сёлетняя 19 лютага, а таксама пратэсты супраць зацiску расьсьледаваньня злачынстваў у Курапатах і праграма «Мартыралёг Беларусі». Прысутныя хвілінай цішы ўшанавалі памяць ахвяраў у Курапатах.

Вельмі цікава й маляўніча расказаў Вацлаў Мельяновіч пра свой побыт у Менску на працягу месяца сьнежаня ў якасьці беларускамоўнага гіда амэрыканскай выстаўкі. Выстаўку штодня наведвала каля 10-12 тысячаў асобаў. Наведнікі цікавіліся ўсім, але найбольш, бадай, жыцьцём Беларусаў у Злучаных Штатах Амэрыкі: беларускімі цэрквамі, арганізацыямі, нагул беларускім жыцьцём. Усе наведнікі вельмі цешыліся, што Беларусы ў Амэрыцы не забыліся сваёй мовы, пераховываюць сваю культуру. Сп. Мельяновіч прывёз дарагую рэліквію, якую Беларусы зь Менску перадалі сваім суродзічам у Амэрыцы — бел-чырвона-белы сьцяг, што разьвяваўся на дэманстрацыі ў Менску ў часе адзначэньня Дзядоў летась.

Сп. Віктар Тур прачытаў вельмі цікавы й добра апрацаваны рэфэрат пра «галоснасьць» й «перабудову» ў Савецкай Беларусі ды адзначыў вялікія цяжкасьці, зь якімі спатыкаюцца гэтак званыя нефармальныя суполкі.

Сп. Пётра Рыжы паведаміў аб лёсе й сучасным палажэньні, у якім знахо-

## РЫЧМОНД-ГІЛ, НЬЮ-ЁРК

Сьвяткаваньне, ладжанае Беларуска-Амэрыканскім Аб'еднаньнем, адбылося ў царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў крыжапаклонную нядзелю 2 красавіка. Прыгожае надвор'е паспрыяла — у царкве сабралася ладная грамада прыхаджанаў і гасьцей. Па сьв. Літургіі, адпраўленай а. Усевaладам Шэмецілам (хорам кіраваў В. Шчэцька) быў адслужаны за Беларускі народ малебен, у часе якога стаяла сьцяжная варта зь беларускім і амэрыканскім сьцягамі. Малебен закончыўся гучным «Многалецьцем» Беларускаму народу і адсьпяваньнем «Вечнай памяці» палеглым змагаром.

У залі Грамадзкага Цэнтру адбылася акадэмія, якую вёў сп. К. Мерляк. Пасьля прышчапленьня бел-чырвона-белых сьцяжкоў урачыстасьць пачалася амэрыканскім гімнам. Сп. Мерляк прачытаў праклямацыю губэрнатарам Нью-Джэрзы Т. Кейнам Дня Беларускай Незалежнасьці, а таксама прывітаньне ад кіраўніка Беларускага Вызвольнага Фронту сп. Д. Касмовіча.

Сп. В. Шчэцька у рэфэраце на тэму дня насьветліў абставіны ў Беларусі ў сакавіку 1918 году, падзяліўся разважаньнямі аб важнасьці ідэі 25 Сакавіка ды расказаў пра сучасныя падзеі на Беларусі, дзе ідэя Незалежнасьці выразна ўзьдзейвае на ход падзеяў.

Сп. А. Міцкевіч прачытаў прывітаньне ад старшыні ГУ БАЗА сп. Антона Шукелайця, а сп. Мерляк пералічыў назовы ўстановаў і арганізацыяў

ды асобаў, што прыслалі пісьмовыя прывітаньні. Беларускім нацыянальным гімнам закончылася афіцыйная частка праграмы.

Адбыўся супольны абед, у часе якога людзі дзяліліся навінамі, успамінамі ды прапановамі. Была разыграная лятарэя із шматлікімі выйгрышамі. Час прайшоў прыемна. Сп. Мерляк падзякаваў жанчынам, што абслугоўвалі сталы, ды ўсім, хто спрычыніўся да арганізацыі сьвяткаваньня.

**В. Ш.**

## ЧЫКАГА, ЗША

Сёлетняй сакавіковай урачыстасьці папярэднічала выстаўка беларускага народнага мастацтва ў Цэнтры імя Р. Дэйлі, што трывала ад 20 сакавіка да 3 красавіка.

У дзень 25 сакавіка быў вывешаны наш бел-чырвона-белы сьцяг перад Гарадзкой Управай, які лунаў побач амэрыканскага ў сонечным надвор'і. Тагож самага дня а. Язэп Сыру адслужыў у царкве Хрыста Збаўцы Літургію з малітвамі за гэрояў Беларусі.



*Амэрыканскі й беларускі сьцягі перад Гарадзкой Управай Чыкага.*

Акадэмія 71-х угодкаў, зладжаная Беларускім Каардынацыйным К-там (БКК), адбылася ў нядзелю 2 красавіка, пасьля багаслужбы ў царкве Хрыста Збаўцы, у банкетнай залі Рыджэнсы Ін. Хоць стаяла шэрае надвор'е, настрой грамады быў узьняты. Пры ўваходзе ў залю двое прыгожых дзяўчатак прышпільвалі суродзічам і гасьцям бел-чырвона-белыя сьцяжкі. Урачыстасьць пачалася амэрыканскім гімнам, адсьпяваным сп-чнай Эйвіс Прэмшэйфэр пад акампанімэнт на фартап'яне Эдвіна Вокера, усьлед за чым Міхась Багдан вынес амэрыканскі сьцяг, а былы альдэрман Люіз Фарына прачытаў зарок на вернасьць сьцягу.

Праграму акадэміі ўдала вёў др. Ролянд Талівэр. Пасьля малітвы, сказанае а. Сыру, прысутныя, пад вядучыя галасы А. Беленіса й М. Махнача, адсьпявалі «Магутны Божа». Новаабраны старшыня БКК др. Вітаўт Рамук даў, паангельску й пабеларуску, кароткі нарыс Акту 25 Сакавіка, нагадаўшы й сучасны ўздым у Беларусі. Хвілінай маўчаньня была ўшанаваная памяць гэрояў Беларусі і нядаўна памерлых былога старшыні Рады БНР др. В. Жук-Грышкевіча і грамадзкага дзеяча інж. Івана Касяка.

Др. Талівэр прадставіў гасьцей, а таксама тых, хто працаваў для вызваленьня Міхася Кукабакі з савецкага канцлягеру, а менавіта: Веру Рамук, адваката Робэрта Віра, Міхася Станэка, Васіля Багдана, Эўдакію Жызьнеўскую, Паўла Брушкевіча, Ніка Жызьнеўскага, а. Я. Сыру, а. Эда Вайцяхоўскага й Памэлю Карбан.

Праклямацыі Дня Беларускай Незалежнасьці губэрнатарам Іліноі, мэрам Чыкага й Гарадзкой Управай прачыталі адпаведна Тамаш Яламаў, Ейвіс Прэмшэйфэр і Роўз Фарына, кіраўнічкай этнічных імпрэзаў пры Гарадзкой Управе. Спалучаныя палаты Ілінойскай легісьлятуры таксама прынялі рэзалюцыю з нагоды ўгодкаў Акту 25 Сакавіка на прапанову штатавай сэнатаркі Джуды Бар Тапінкі.

Прывітаньне ад Прэзыдэнта й сп-ні Буш прачытаў канфэрансье Талівэр, перадаўшы ўсьлед прывітаньні ад кангрэсмэна Фрэнка Анунцыё ды сэнатара Алэна Дыксана і паведамленьне аб губэрнатарскіх праклямацыях у Мінэсоце й Каліфорніі. Кангрэсмэн Анунцыё й сэнатар Дыксан зрабілі заявы ў Кангрэсе ЗША аб угодках Беларускай Незалежнасьці.

Прывітаньні ўдзельнікам сьвяткаваньня, як паведаміла сп-ня Вера Рамук, прыслалі: Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, ГУ БАЗА, Клiўлендзкі адзьдзел БАЗА, Беларуская сэкцыя радыё Ватыкану, ЗБВБ, Згурт. Беларусаў у Вялікабрытаніі, Задзіноч. Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў, Сьвяткавальны К-т у Лёс-Анджэлесе, Беларускі Рэспубліканскі Клюб у Лёс-Анджэлесе, Нацыянальная Рада Рэспубліканскіх Этнічных Клюбаў, др. М. Смаршчок зь Мінэсоты.

Верш Алеся Салаўя «Мая Беларусь», паясьніўшы зьмест паангельску, прадэклямавала Валя В.

Зь вельмі цікавым дакладам паангельску выступіў др. Янка Запруднік, рэдактар «Беларуса». Ён гаварыў пра страх як бар'ер на шляху перабудовы ў СССР. Дакладам зацікавіліся англамоўныя госьці ды прасілі копіі відэазапісу дакладу. У рэфэраце пабеларуску др. Запруднік дэтальна расказаў пра нацыянальны рух моладзі на Беларусі («нефармалаў»), і пастуляты гэтага руху.

У мастацкай частцы а. Сыру прасьпяваў песьню «Маёй каханцы» (г. зн. Беларусі) на словы Я. Коласа да выканаў на фартапіяне тры кампазыцыі Міколы Куліковіча, ушаноўваючы гэтым памяць кампазытара, які памёр 20 гадоў таму.

З прывітаньямі выступілі прадстаўнікі ад Украінскага Кангрэсавага К-ту др. Міраслаў Харкевіч, ад Таварыства Прыязьні Народаў Цэнтральна-Ўсходняй Эўропы сп. Антоні Пэньдзіч (польскага паходжаньня), сп-ня Роўз Фарына ад Гарадзкой Управы, ад К-ту Паняволеных Народаў старшыня сп. Казімір Оксас (літоўскага паходжаньня).

Былі ўручаныя ўзнагароды др. Я. Запрудніку за шматгадовую плённую працу на беларускай ніве ды сп. Лявону Сідарэвічу, даўгагадоваму скарбніку БКК у Чыкага да ўдалае вядзеньне фінансавай гаспадаркі.

Сп. В. Волат прадэклямаваў верш Віктара Рудчыка зь Беластоку «Беларусь на расьпяцьці».

Урачыстасьць закончылася малітвай, якую сказаў пастар Алексы Гарбузюк з Баптысцкай Украінскай Царквы, ды агульна адсьпяваным беларускім нацыянальным гімнам.

Вялікі артыкул аб угодках беларускае Незалежнасьці зьмясьціла польская газэта «Дзеньнік Зьвёнзковы»; нататка была зьмешчаная ў газэце Harlem-Irving Times, а сп-ня Люцына Мігала, кіраўнічка этнічных перадачаў радыястанцыі WCEV, падала ў сваёй праграме 14 разоў інфармацыю пра Беларусь і сакавіковае сьвяткаваньне ў Чыкага.

Др. Я. Запруднік даў інтэрв'ю беларускай чыкагаўскай радыяпраграме «Нёман», якое было перададзенае 23 красавіка.

**Др. В. Р.**

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА Ў ЧЫКАГА

У самым цэнтры Чыкага ў небасяжным будынку, які назвалі імём славутага мэра Рычарда Дэйлі, разьмясьцілася мноства гарадзкіх установаў. Праз высокае прасторнае фае будыні-




*Экспанаты беларускай выстаўкі ў Цэнтры імя Р. Дэйлі. Фота В. Рамук.*

ны, у цэнтры якога знаходзяцца доведачныя сталы, праходзіць штодня каля пяцёх тысячаў працаўнікоў і наведнікаў. Шырокая нутраная сцяна ў фае служыць месцам выставак.

20-га сакавіка сёлета на ўсю шырыню сьцяны былі разьмешчаныя на стэндах ды разьвешаныя беларускія экспанаты — чатыры з палавінаю дзесяткі іх: у цэнтры — карта Беларусі, бел-чырвона-белы сьцяг і Пагоня, а пабапал — добра падабраная калекцыя ручных вырабаў, найбольш плады руплівых жаночых рук: вышыўка, тканіны, паясы, а таксама крыху разьбы па дрэве, кераміка, абраз Пётры Міраноўіча «Эмігранты», фатаграфіі краявідаў і гарадоў Беларусі.

Усё гэта — у дадатак да ўзгаданьня з адпаведнымі інстанцыямі — трэба было сабраць, паразгладжваць, панаклейваць, панапісваць этыкеткі, прывезьці, разьвесіць (а пасьля, 3-га красавіка, забраць ды вярнуць уласьнікам). Крапатлівая і часаёмкая праца была ўмела праробленая сп-твамі Верай і Вітаўтам Рамукамі, Люняй і Антонам Беленісамі, Нікадэмам Жызьнеўскім і Эўдакіяй Жызьнеўскай. Экспанаты на выстаўку пазычылі таксама сп-твы Ванда й Міхась Махначы ды Ірэна й Ал Талівэры.

Невялікая група беларускіх актывістаў у Чыкага працуе аддана й эфэктыўна ды з выдатнымі вынікамі ў справе папулярызацыі імя Беларусі і ейнае культуры.

**Я. З.**

*Сакавіковыя ўгодкі былі годна адзначаныя ў Саўт-Рывэры, Кліўленьдзе, Лён-Анджэлесе, у Лёндане, Мэльбурне, Сыднэі, Адэляйдзе. Пра іх — у наступным нумары «Беларуса».*

***З жыцця ў Саўт-Рывэры***

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

25 сакавіка сёлета ў залі Беларускага Цэнтру мастачка Ірэна Рагалевіч-Дутко адчыніла мастацкую выстаўку,



*Правая палавіна выставачнай залі. Фота Надзі Кудасавай*

што сталася ўжо традыцыяй. Сёлета былі паказаныя творы мастакоў і ўмельцаў: а. Канстантына Бандарука з Чыкага, Мікалая Цудзіка зь Менску, Іды Батэрворт з Бэрнардсвілу, Н.-Дж., Ірэны Рагалевіч-Дутко з Брыджуотэру, Н.-Дж., Надзі Кудасавай з Сомэрсэту, Н.-Дж., Віктара Жаўнярові ча з Францыі, Людмілы Махнюк з Джэймсбургу, Н.-Дж., Алега Махнюка з Джэймсбургу і Алісы Махнюк, дачушкі Людмілы і Алега Махнюкоў, Пятра Мірановіча зь Нью-Ёрку, Міхася Наўмовіча з Францыі, Пётры Рамановіча з Аўстраліі, Галіны Русак з Сомэрсэту, Нью-Джэрзы, Тамары Кольба (Стагановіч) зь Нью-Шрусбэры, Н-Дж., Івонкі Сурвіла з Канады, Лявона Тарасэвіча зь Беласточчыны, Аляксандра Вало зь Фінляндыі.

Пра выстаўленыя творы можна сказаць толькі адно: цудоўныя. Але называць, якія зь іх цудоўнейшыя, такому «экспэрту», як я, боязна.

На выстаўцы шмат было вышыванак і іншых рукатворных вырабаў. Паказалі свае працы наступныя асобы: Юля Андрусышына, Галіна Брынкевіч, Жэня Цярпіцкая, Ірэна Дутко, Марыя Гурын, Таня Гэтман, Валя Камянкова, Зора Кіпель, Рэня Касьцюк, Надзя Кудасава, матушка Лапіцкая, Ліза Літаровіч, Люда Літаровіч, Людміла Мах-

*(Працяг на 8-й б.)*

## МАСТАЦКАЯ ВЫСТАЎКА

*(Заканчэньне зь 7-й б.)*

нюк, Вольга Мартусевіч, Натальля Орса, Валя Рагалевіч, Галіна Русак, Таня Талмацэвіч, Марыя Шчорс, Марыя Стагановіч, Анна Стукаліч, Хрысьціна Урыўская, Анна Войтэнка і Ніна Згірская. Цудоўнымі сярод гэтых працаў асьмелюся назваць вышыванкі Тані Талмацэвіч.

Цікавыя фатаграфіі выставілі Мікалай Дутко, Яраслаў Вініцкі і Аляксандар Сільвановіч.

Алег Махнюк, апрача трох малюнкаў, выставіў і скульптуры. Праўда, ня новыя. Затое малюнкі ўсе тры новыя. І ня толькі ён адзін пастараўся. У гэтым годзе ўсе мастачкі і мастакі паказалі амаль толькі новыя свае працы.

Тэматыка твораў разнастайная: пэйзажы, натурморты, партрэты. Стыль? Клясычна-рэалістычны. Мадэрны твор толькі Лявона Тарасэвіча: два чорныя кліны, а паміж імі чырвоны квадрат.

Як бачна зь пераліку удзельнікаў, на гэтай, шаснаццатай з чаргі, выстаўцы ўзялі ўдзел ня толькі амэрыканскія мастачкі й мастакі. І гэта радуе. Спадзяюся, у наступным годзе гэтых замежнікаў будзе болей. І новых твораў таксама.

**М. Кавыль**

## *ЗЛАЧЫНСТВЫ — ТЭМА ДРУКУ БССР*

Данядаўна савецкі друк пісаў пра злачынствы толькі на Захадзе. Але нарэшце «перабудова» абразуміла партыйных бюракратаў. Пад нясьмелым яшчэ загалоўкам — «Брыфінг у МУС БССР» — газэта «Чырвоная Зьмена» (11.II.89) піша:

«Становішча захаванасьці правапарадку ў рэспубліцы апошнія паўтара года складаецца напружанае, адзначыў у сваім выступленьні міністар унутраных спраў В. Піскароў. Крывая злачыннасьці ўпарта ўягнецца ўверх.

«Міністар унутраных спраў БССР спыніўся на праблемах наркаманіі. Калі не ўтаймаваць гэтую стыхію, то, паводля меркаваньня вучоных, да 2000 году ўзровень яе дасягне цяперашняга ўзроўню алькагалізму. Пра маштабы наркаманіі ў рэспубліцы гаворыць такая лічба — толькі ў 1988 годзе каля 3 тысяч чалавек былі аштрафаваныя за пасевы маку. Трэба ўлічыць, што Беларусь зараз ужо не спажывец наркотыкаў, а пастаўшчык, куды едуць ганцы з Паўночнага Каўказу, Украіны і нават з рэспублік Сярэдняй Азіі.

«Сацыяльную ахварбоўку мае праблема самазабойства. У сваёй большасьці такія віды здарэньняў адбываюцца на глебе алькагалізму. Каля 100 чалавек — такую лічбу назваў В. Піскароў — пакончылі жыцьцё самагубствам толькі ў студзені гэтага году.

«Потым міністар адказаў на пытаньні прадстаўнікоў прэсы.

«— Ці ёсьць у Беларусі спэцыяльнае падразьдзяленьне для барацьбы з арганізаванай злачыннасьцю?

«— Такое падразьдзяленьне хутка будзе створана. Паўтараю, становішча ў рэспубліцы складанае. Злачынцы ўжо маюць форму супрацоўнікаў міліцыі, радыястанцыі, агнястрэльную зброю...».

Газэта «Полесская Правда» (12.IV. 89) падала выказваньне начальніка гарадскоє міліцыі Пінску маёра П. Саўчука, які сказаў:

«На жаль, на сёньняшні дзень апэратыўнае становішча ў Пінску ўскладнілася. Летась у параўнаньні з папярэднімі двума гадамі — колькасьць правапарушэньняў узрасла. Гэтая нэгатыўная тэндэнцыя захоўваецца й цяпер. Калі, прыкладам, за першы квартал 1988 году было зроблена 80 злачынстваў, дык за студзень-сакавік бягучага году — больш за 130».

## НОВАЯ КРУЖЭЛКА ДАНЧЫКА Й ЛЕАНІДА БАРТКЕВІЧА

У чэрвені сёлета выходзіць новая кружэлка выдатных сьпевакоў Данчыка й Леаніда Барткевіча. На кружэлцы 12 беларускіх рамансаў і патрыятычных песьняў, выкананых солё і дуэтам. Замоўленьні на кружэлку або касэту слаць на адзін з двух адрасоў:

J. Andrusyshyn
430 E 6th St., Apt. 3C
New York, N.Y. 10009

Vera Bartul
146 Sussex Dr.
Manhasset, N.Y. 11030

Цана кружэлкі або касэты — 20 ам. д. плюс перасылка ў ЗША — 3 д., у Канаду — 3,50 д. за кружэлку, а за касэту — 1 даляр.

*ВЫДАТНАЯ НАГОДА ДЛЯ ЦІКАВАЙ КАР'ЕРЫ!*

**RADIO PROGRAM ANALYST**
**BELORUSSIAN**

American Radio Station in Munich has a vacancy for a Radio Program Analyst to review, analyze, summarize, and translate its own programming from the Belorussian and Russian languages into English. Requirements: Fluency in the Belorussian, Russian and English languages; a background in Soviet studies; and a specific knowledge of Belorussian history, literature, and culture.

We offer an excellent salary/benefits package, often including company paid housing.

To apply please submit a detailed resume to:

RFE/RL, INC.
Recruitment Office
Oettingenstr. 67
D-8000 Munich 22
West Germany

Калі хто хоча даведацца дэтальней аб прапанаванай працы ў радыё «Свабода», тэлефануйце ў Нью-Ёрк на нумар: (212) 397-5341.

З глыбокім сумам паведамляем пра заўчасную сьмерць нашага добрага сябры й супрацоўніка на грамадзкай ніве

## СЬВ. † ПАМ. МІКОЛЫ ЯГАЎДЗІКА

народжанага на Слонімшчыне 15 лютага 1926 г., які памёр 8 сакавіка 1989 г. ў Кліўлендзе, ЗША пасьля цяжкой хваробы на сэрца. Сям'і нябожчыка выказваем найшчырэйшыя спачуваньні з прычыны страты дарагога мужа й бацькі.

**Сябры зь Лювэнскага Ўнівэрсытэту**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| БАЗА Кліўленд | ам.д. 500 |
| М. С. | 100 |
| В. Тумаш | 100 |
| М. Заморскі | 100 |
| Л. Брылеўская | 100 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 75 |
| М. Чупракоў | 50 |
| К. Акула | 50 |
| Ю. Кіпель | 50 |
| Ч. Пануцэвіч | 50 |
| А. Ліхач | 50 |
| В. Рамук | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Л. Норык | 50 |
| А. Чарнэцкая | 50 |
| А. Філістовіч | 40 |
| Я. Скіро | 30 |
| Ю. Касьцюкевіч | 30 |
| Б. Грабінскі | 25 |
| М. Белямук | 25 |
| В. Рамук | 25 |
| М. Булыга | 24 |
| В. Марусін | 20 |
| Г. Пікарда | 20 |
| Л. Драздова | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| Ф. Бартуль | 20 |
| Б. Даніовіч | 20 |
| А. Асіпчык | 20 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| А. В. Р. | 20 |
| А. Сільвановіч | 20 |
| Р. Станкевіч | 20 |
| К. Субота | 10 |
| А. Стрэчань | 10 |
| А. Шукелайць | 10 |
| А. Міцкевіч | 10 |
| А. Непеін | 10 |
| А. Ліхач | 10 |
| Я. Сапежынскі | 10 |
| П. Кажура | 10 |
| В. Тур | 10 |
| С. Гутырчык | 10 |
| Э. Яраховіч | 10 |
| Я. Каханоўская | 10 |
| Т. і А. Кольба | 10 |
| Ананімна | 10 |
| М. Абрамчык | 10 |
| Л. Стагановіч | 10 |
| Ю. Андрусышына | 10 |
| І. Цупрык | 10 |
| З. Туронак | 10 |
| В. Стома | 10 |
| М. В. | 10 |
| У. Машанскі | 10 |
| А. Во... (неразборліва) | 10 |
| Усяго | 830 |

| | |
|---|---|
| Усяго | 1684 |

*Заміж кветак на магілу с.п. В. Жук-Грышкевіча*

| | |
|---|---|
| А. і Л. Беленіс | 50 |
| Ч. і І. Пануцэвіч | 50 |
| В. Каваль | 50 |
| В. і В. Рамук | 50 |
| К. і Я. Вініцкі | 25 |
| Усяго | 275 |

*Заміж кветак на магілу с.п. М. Ягаўдзіка*

| | |
|---|---|
| М. Баяроўскі | 21 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| У. Валаткевіч | ам.д. 40 |
| У. Машанскі | 30 |
| У. Сітнік | 30 |
| М. Тулейка | 25 |
| П. Нядзьвецкі | 25 |
| Я. Яновіч | 20 |
| С. М. | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| Ю. Наумчык | 20 |
| М. Сенька | 20 |
| А. Даніловіч | 20 |
| В. Цярпіцкі | 20 |
| М. Палюховіч | 20 |
| П. Талмачэвец | 20 |
| Т. Кольба | 20 |
| А. Кузьміч | 20 |
| Л. Высоцкі | 10 |
| А. Семянчук | 10 |
| Пр. | 2 |
| Усяго | 392 |

*Сабрана на Сакавіковым сьвяткаваньні ў Нью-Брансьвіку:*

| | |
|---|---|
| А. і Л. Дубовік | ам.д. 100 |
| К. Мерляк | 50 |
| Я. Вініцкі | 50 |
| Арх. Мікалай | 40 |
| В. Кажан | 30 |
| Я. Запруднік | 25 |
| В. і З. Кіпель | 25 |
| С. К. | 20 |
| Ю. Кіпель | 20 |
| Ю. Азарка | 20 |
| В. Макац | 20 |
| Л. Корчык | 20 |

**АЎСТРАЛІЯ**

*Праз сп. У. Акавітага атрымана летась:*

| | |
|---|---|
| М. Костышын | аўстр.д. 2 |
| Э. Трысмакова | 45 |
| В. Зеленеўскі | 25 |
| П. Пачопэк | 40 |
| А. Садоўскі | 50 |
| А. Руткевіч | 25 |
| а. М. Бурнос | 40 |
| У. Акавіты | 50 |
| Я. Ролсан | 25 |
| др. В. Мілянцэвіч | 30 |
| Усяго | 355 |
| У ам.д. | 282,22 |

### АД АДМІНІСТРАЦЫІ ГАЗ. «БЕЛАРУС»

Пачынаючы з гэтага нумару газэты, некаторыя нашы падпішчыкі будуць атрымваць газ. «Беларус» ад нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча, якому трэба пасылаць падпіску на газэты, выпісваючы чэк на ягонае прозьвішча й перасылаць на адрас:

B. Danilovich
303 Howard St.
New Brunswick, N.J. 08901

### *НАГОДА НАВУЧЫЦЦА ІНКРУСТАЦЫІ САЛОМКАЙ!*

Сп. Мікола Шуст, выдатны майстар інкрустацыі саломкай, навучыць свайго мастацтва ахвотніка да яго. Навука, матар'ял і памешканьне (каля возера) дармовыя.

Сп. Шуст жыве ў Лёндане ў Канадзе. Тэлефанаваць на нумар: (519) 686-7796 або (519) 786-6078